ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# НАСТАЎНІЦКАЯ газета

№ 76(5258)
Аўторак,
10 ліпеня
2001 года

*Выходзіць з 20 снежня 1945 года*

*Кошт у розніцу — 51 руб.*

# Свайго не цурайся і чужому вучыся

*Сёння мы пачынаем серыю размоў з міністрам адукацыі прафесарам В.І.Стражавым, у якіх будуць акрэслены асноўныя надзённасці адукацыі, пачынаючы з арганізацыйных момантаў і заканчваючы сутнаснымі пераўтварэннямі і зменамі ў змесце адукацыі.*

**Чаму ў нашым грамадстве вырастаюць запыты на спецыялістаў з вышэйшай адукацыяй, чым яна характарызуецца, якія праблемы паўстаюць і якія прагнозы ставяцца – гэтыя пытанні хвалююць і цікавяць шматкаго.**

**У суботнім кабінеце міністра, нягледзячы на выхадны дзень, не было ціха і спакойна. За час нашай размовы раскаляўся не адзін яго тэлефон. Аднак на твары Васіля Іванавіча гэты "рух і дынаміка" кабінета не адбіваліся. Мабыць, з гэтым ён ужо звыкся і ствaралася ўражанне, што нішто не можа перашкодзіць плыні нашай размовы.**

**— Васіль Іванавіч, перад тым як перайсці да праблематыкі і характарыстык сучаснай вышэйшай адукацыі, хацелася б ад Вас пачуць адказ на пытанне, чаму былі перанесены тэрміны правядзення II з'езда настаўнікаў, які меўся адбыцца ў канцы чэрвеня.**

— Па прапанове міністэрства ўрад прызначыў правядзенне II з'езда настаўнікаў на 29-30 чэрвеня бягучага года. Але пасля высветлілася шмат акалічнасцей, якія прымусілі памяняць раней задуманае. Напрыклад, вельмі важнай падзеяй для нашага настаўніцтва было б прыняцце Нацыянальным Сходам Рэспублікі Беларусь закона аб адукацыі. Але мы ўбачылі, што для падрыхтоўкі гэтага жыццевызначальнага дакумента патрэбны пэўны час. На сёння ён прыняты ў першым чытанні. Чакаем, што заканадаўчую дзейсную сілу ён набудзе ў кастрычніку. Гэта па-першае. Па-другое, маюцца матэрыялы і рэзалюцыі II усебеларускага сходу, у якіх закладзены асноўныя прыярытэты і задачы развіцця нашага грамадства, у тым ліку і ў сістэме адукацыі і выхавання. І па-трэцяе, становіцца ўжо традыцыяй правядзенне педагагічных форумаў восенню. Таму мы выступілі з прапановай ва ўрад нашай краіны перанесці другі з'езд настаўнікаў на 2-3 лістапада 2001 года.

**— Але ж гэта не азначае, што падрыхтоўка да з'езда спынілася?**

— Падрыхтоўка да яго вядзецца мэтанакіравана і паслядоўна. Значная частка дэлегатаў на раённых канферэнцыях ужо абрана, астатнія будуць вылучаны і абраны ў верасні. Гэта датычыць перш-наперш не настаўнікаў, а выкладчыкаў ВНУ і супрацоўнікаў адукацыйных рэспубліканскіх устаноў.

У рамках падрыхтоўкі да з'езда будуць праводзіцца жнівеньскія нарады, вызначальнымі крытэрыямі якіх стануць рашэнні другога ўсенароднага сходу. Адным словам, наперадзе яшчэ вялікая праца па падрыхтоўцы з'езда настаўнікаў. Хацелася б, каб на ім, з аднаго боку, былі падведзены вынікі нашай сумеснай працы за тэрмін ад правядзення першага з'езда, а з другога – былі акрэслены перспектывы адукацыі ў нашай рэспубліцы на бліжэйшы час і на наступныя дзесяцігоддзі.

**— Васіль Іванавіч, у нялёгкай эканамічнай сітуацыі амаль заўсёды нястачы і нягоды падаюць на плечы настаўнікаў, выкладчыкаў. Не магу не задаць Вам пытанне пра матэрыяльны стан і тых, хто прыходзіць у клас, аўдыторыю, і пра матэрыяльна-тэхнічнае забеспячэнне саміх навучальных устаноў.**

— Я ведаю, што вызначальным у прафесійным кантактаванні з маімі калегамі з'яўляецца пытанне аб матэрыяльным забеспячэнні ўстаноў адукацыі, заработнай плаце. Гэта хвалюе мяне як міністра, як прафесіянала і проста як чалавека. Скажу нават больш. Мая жонка ўжо шмат гадоў працуе ў ВНУ ў якасці простага выкладчыка. Яе заробак такі, як і ў настаўніка з вышэйшай катэгорыяй.

У маі сярэдняя заработная плата ў адукацыі ў цэлым склала 92,6 тыс. руб.; настаўнікаў – 109,7 тыс. руб.

**(Працяг на 2-й стар.)**

Абітурыент–2001

## Гарачае лета для абітурыентаў БДУ ўжо пачалося

***У гэтыя ліпеньскія дні ўтульны, убраны шыкоўнымі ружамі дворык БДУ нагадвае вакзал. Стомленыя спякотай і чаканнем бацькі, нецярпліва пазіраючы на гадзіннікі, праводзяць і сустракаюць сваіх дзяцей — узбуджаных, радасных ці самотных. У хваляваннях яны забылі, што паступленне (дарэчы, як і непаступленне) — гэта ўсяго толькі маленькі крок да мары...***

У Беларускім дзяржаўным універсітэце ўступныя экзамены пачаліся ў суботу. Амаль сем тысяч юнакоў і дзяўчат падалі заявы на дзённую форму навучання. Такім чынам, сярэдні конкурс у гэтай самай прэстыжнай навучальнай установе краіны склаў 3,48.

На 1825 бюджэтных месцаў прэтэндуюць больш за дзве тысячы медалістаў і больш за сто ўладальнікаў дыпломаў ССНУ і ПТВ з адзнакай. Свае заявы ў БДУ падалі 1629 выпускнікоў ліцэяў і гімназій, 228 пераможцаў міжнародных, рэспубліканскіх алімпіяд і універсітэцкай алімпіяды "Абітурыент БДУ-2001".

Летась пры паступленні на прыродазнаўчыя спецыяльнасці ў БДУ для медалістаў было арганізавана тэсціраванне. Сёлета яны здаюць экзамен па профільным прадмеце, і тыя, хто атрымае 10 ці 9 балаў, будуць залічаны без далейшых выпрабаванняў.

Дарэчы, з увядзеннем дзесяцібальнай сістэмы на ўступных экзаменах у БДУ сельскія выпускнікі да агульнай сумы балаў атрымліваюць дадаткова 3 балы (пры шасцібальнай сістэме ў мінулыя гады ім даваўся 1 бал). У гэтым годзе свае заявы ў БДУ падалі 510 сельскіх выпускнікоў (8 працэнтаў ад агульнай колькасці). І ўжо прасочваецца тэндэнцыя да зніжэння колькасці сельскіх абітурыентаў у Белдзяржуніверсітэце, які вызначаецца высокім узроўнем патрабаванняў і вялікім конкурсам. Так, калі ў 1997 годзе сярод абітурыентаў БДУ было 14 працэнтаў юнакоў і дзяўчат з сяла, у 1998 годзе — 10 працэнтаў, у 1999 і 2000 гадах — 9 працэнтаў, то сёлета — ужо 8 працэнтаў.

Вельмі высокі конкурс у БДУ на ўсе спецыяльнасці філалагічнага факультэта. Так, на спецыяльнасць "Сучасная англійская мова і літаратура" ён склаў 10,08. На адкрытай сёлета новай спецыяльнасці "Кітайская мова" — конкурс 6,5, на спецыяльнасці "Сучасная італьянская мова" і "Сучасная нямецкая мова" — адпаведна 5,93 і 5,60. На спецыяльнасць "Беларуская мова і літаратура" сёлетні конкурс — 3,39 (летась быў 2,6).

Вырас конкурс на ўсе спецыяльнасці факультэта фундаментальнай і нетрадыцыйнай медыцыны. Так, на спецыяльнасць "Фармацыя" ён склаў 6,40 (летась — 2,0), на новую спецыяльнасць "Лячэбная справа" — 3,67.

Традыцыйна высокі конкурс на спецыяльнасць "Інфармацыя і камунікацыя" на факультэце філасофіі і сацыяльных навук — 6,0 (цікава, што на такую ж спецыяльнасць факультэта журналістыкі ён меншы ўдвая — 3,06). На спецыяльнасць "Філасофія" конкурс — 4,07.

Больш за 200 пераможцаў міжнародных, рэспубліканскіх алімпіяд і універсітэцкай алімпіяды "Абітурыент БДУ-2001" ужо залічаны студэнтамі універсітэта. У цэлым гэта не дужа паўплывала на конкурс, але на дзвюх спецыяльнасцях ён узрос у некалькі разоў. Так, на спецыяльнасць "Біятэхналогія" па выніках алімпіяд залічаны 15 чалавек пры плане прыёму 20. Можна падлічыць — засталіся вольнымі толькі пяць месцаў, а заявы на гэтую спецыяльнасць падалі 128 абітурыентаў. Тое ж самае і на спецыяльнасці "Эканоміка", дзе пры плане прыёму 20 ужо залічаны 14 чалавек (падалі заявы 125).

Вялізны конкурс у юрыдычным каледжы БДУ. Пры плане прыёму на аснове сярэдняй адукацыі — 50 і на аснове базавай адукацыі — 25 заявы падалі (па звестках на суботу) адпаведна 69 і 273 абітурыенты. І гэта пры тым, што прыём дакументаў тут працягваецца да 15 ліпеня. І па вопыце мінулага года вядома — хто не пройдзе па конкурсе на юрыдычны факультэт, часта спрабуе сябе ў юрыдычным каледжы.

БДУ вядзе прыём студэнтаў на 49 спецыяльнасцей. Ужо цяпер пачалося залічэнне пераможцаў алімпіяд і медалістаў. Многія ж абітурыенты пройдуць свой нялёгкі шлях да канца.

У прыёмнай камісіі не вялі статыстыку: ці шмат маладых людзей скарысталі сваё права паступаць адначасова ў дзве ВНУ. Штодня ў БДУ будуць вывешвацца звесткі аб тым, як мяняецца конкурс на кожную спецыяльнасць. І многім давядзецца прымаць адказнае рашэнне, аналізуючы свае шанцы на паступленне, — у якую ВНУ ўрэшце аддаць арыгінал атэстата. Сёння поспех абітурыента залежыць ужо не толькі ад ведаў і ўмення іх прадэманстраваць, але і ад умення рабіць правільны выбар.

**Галіна СІДАРОВІЧ.**

Пра што б хацелася сказаць на II з'ездзе настаўнікаў Рэспублікі Беларусь

# Снегіры жывуць, дзе чыста

### По прыкладзе цывілізаваных краін нам трэба ўзаконіць дабрачыннасць

***Тамара Васільеўна Шчакоціна — з тых людзей, якія ўнушаюць аптымізм і надзею на лепшае.***

***З ёй я пазнаёмілася выпадкова ў кабінеце старшыні Пухавіцкага раённага выканаўчага камітэта, куды прывяло мяне рэдакцыйнае заданне. Раённае кіраўніцтва вяло тады дзелавую размову з генеральным дырэктарам "Sos-вёскі", якую маюць намер распачаць будаваць у Пухавіцкім раёне, месца, якое прыцягвае да сябе вока людзей справы як сваёй прыгажосцю, так і зручнасцю — непадалёк ад сталіцы.***

***Некалі Тамара Васільеўна пачынала ў сельскай школе піянерважатай. А сёння яна – намеснік старшыні Пухавіцкага райвыканкама, адказвае за вырашэнне праблем сацыяльнай сферы. Праблемы адукацыі і дзяцінства — гэта тое, з чым яна сутыкаецца штодзённа. На другім з'ездзе настаўнікаў краіны ёй таксама ёсць што сказаць.***

На мой погляд, на другім з'ездзе настаўнікаў краіны ў першую чаргу неабходна гаварыць пра крытэрыі ацэнкі іх працы, пра заработную плату. Нам трэба звярнуцца да міжнароднага вопыту і "падцягнуць" яе да ўзроўню цывілізаваных краін. Каб дастойна жыць — настаўнік павінен атрымліваць за сваю працу дастойную заработную плату. Так, мы ўжо крышачку больш-менш "падцягнулі" яе. Мяне асабіста радуе, што сёння дырэктар сельскай школы атрымлівае, жывучы ў вёсцы, столькі ж, колькі, напрыклад, намеснік старшыні райвыканкама — 150-160 тысяч рублёў у месяц. Гэта радуе. Аднак увогуле, што тычыцца ацэнкі працы настаўніка, у нас ёсць многа намі недадуманага. І нават калі мы на месцах імкнемся прыўнесці нешта сваё, знайсці сваё рашэнне той ці іншай праблемы часам бачым, што нашы намаганні — безвыніковыя. У сілу аб'ектыўных прычын мы вырашыць іх не ў сілах, а чакаем дапамогі ад урада і дзяржавы.

Ну вось, напрыклад, возьмем наш раён — Пухавіцкі. Гэта вялікі раён — махіна ў параўнанні з суседнімі. Другі ў Мінскай вобласці па колькасці насельніцтва: 13 тысяч вучняў і 35 агульнаадукацыйных школ (для прыкладу, у Асіповіцкім раёне навучаецца сёння толькі тры тысячы вучняў). Усе праблемы "канцэнтруюцца ў маім кабінеце". Усе дарогі, як я жартую, вядуць да нас, у райвыканкам. Учора, напрыклад, у мяне на прыёме быў бомж. Так, бомж! Мы вымушаны былі яго апрануць і накарміць. А што рабіць?

У раёне, на жаль, беспрацоўе мае жаночы твар. Сёння многія маладыя сем'і не маюць магчымасці ўладкаваць сваё дзіця ў дзіцячы садок. Адзін з іх у нашым раёне дзесяты год будуецца. Прычына тая ж — адсутнасць фінансавых сродкаў у бюджэце.

Тым не менш мы не сядзім склаўшы рукі, а працуем. Інакш проста нельга. Аднак я хачу сказаць, што за апошнія пяць гадоў у нашым раёне зроблена столькі, колькі не было зроблена за 70 гадоў савецкай улады. Уяўляеце, у такім цудоўным раёне з такой дзіўнай прыродай не было нават ніводнага стацыянарнага аздараўленчага летніка. А мы адкрылі яго ў 1999 годзе! Забралі паўразбураную запушчаную базу адной мінскай арганізацыі. Памятаю, зімой мы туды прыехалі, і тыя паўвыцвілыя літары "Гайдаравец" — да гэтага часу ў вачах! А такая прыгажосць вакол — я абамлела: вавёркі і зайцы "гаспадараць", а па заснежаных галінках кустоў — снегіры скачуць. А яны, мы ведаем, жывуць не абы-дзе — толькі ў экалагічна чыстых зонах!

Да чаго я гэта? Заклікаю думаць і працаваць. У любой праблемы ёсць сваё рашэнне! У кожным раёне можна знайсці вось такую чыстую зону, дзе жывуць снегіры. Мала месцаў у дашкольных установах? Што мы робім? Пад дахамі чатырох школ мы адкрылі дзіцячыя садкі. Лічу, гэта выйсце з сітуацыі і цудоўны вопыт! І надалей так будзем дзейнічаць. Маленькія дзеткі ўліваюцца ў школьны калектыў. Адна справа, калі дзіця прасядзела дома, а другая — калі яно гэты каштоўны ў жыцці час знаходзіцца ў калектыве, пад наглядам дарослых, прымае ўдзел у школьных мерапрыемствах.

І апошняе — галоўнае, да чаго я вяду размову. Сёння з-за адсутнасці фінансавых сродкаў, з-за нашага вось такога бядотнага стану мы вымушаны звяртацца за дапамогай да гуманітарных грамадскіх арганізацый, у тым ліку і замежных. Наладжваем і падтрымліваем з імі цесныя ўзаемаадносіны, супрацоўнічаем. Іншага выйсця ў нас пакуль няма. І дзякуй ім за дапамогу! А адну бізнес-лэдзі з Англіі я літаральна гатова насіць на руках! У наш дзіцячы прытулак, які мы таксама нядаўна адкрылі, англічане, акрамя, вядома, сваёй міласэрнай цеплыні і ласкі, прывезлі дзецям трэнажоры, новыя дзіцячыя ложкі, прыгожыя пасцельныя прыналежнасці, якіх у многіх з нас у саміх дома няма. Нават воданепранікальныя матрацы цяпер ёсць у нашых дзяцей з прытулку.

Дык вось, я ўвесь час шукаю адказ на пытанне: чаму гэтыя людзі так робяць, займаюцца дабрачыннасцю, плывуць да нас на пароме, едуць праз Германію, Польшчу! Прычым за рулём вадзіцеля — сам кіраўнік фірмы. Я разумею іх душэўны парыў, дый гэта цудоўныя людзі. Аднак! Яны пасля маюць паслабленне ў падаткаабкладанні. Я лічу, каб "запрацавала" сацыяльная сфера ў нашай краіне, нам неабходны закон "Аб дабрачыннасці". Бо сёння нашы прадпрыемствы, каб дапамагчы нам, часам аддаюць апошняе, а пасля яшчэ і падаткі за гэта плацяць. І ў гэтым законе неабходна акрэсліць кола пытанняў: канкрэтна агаварыць, на якія мэты будуць паніжаны падаткі, скажам, на падрыхтоўку школы да навучальнага года, на аздараўленчую кампанію і г.д. Давайце звернемся да вопыту замежных краін. І гэта будзе ўсім нам толькі на карысць, і ў першую чаргу на карысць — нашым дзецям.

**Падрыхтавала Святлана БЕНЬ.**

Лета–2001

# Цёплыя воды Нарачы

***Бірузовая Нарач у гэты ліпеньскі дзень была надзвычай спакойнай. Яе люстэркавую роўнядзь непакоілі толькі прыбярэжныя воды, якія прыбівалі да пясчанай касы жвавыя хвалькі. Пасля невялікага дажджу вецер сціціўся і сваволіў толькі сярод чароту. Ён паддыблiваў аксамітавыя чубы цыбатых чарацянак і гарэзліва калмаціў іх прычоскі. Сонца асмялела і развяло ў бакі надакучлівыя хмары. Промні імгненна прабілі хвалевую рабізну і рассыпаліся па вадзе. Возера зайграла незвычайным святлом. Спалучэнне бірузы і золата давала такое адценне, што таленту прыроды заставалася толькі падзівіцца.***

Бачыць такую непаўторную прыгажосць пашчасціла многім выхаванцам Раісы Кандрацьеўны Баранавай, намесніка дырэктара па выхаваўчай рабоце Мінскага ВПВ гандлю, якая ўжо каля пятнаццаці гадоў арганізоўвае адпачынак сваіх навучэнцаў на беразе знакамітай Нарачы.

Кожнае лета ў турысцка-экскурсійны комплекс "Нарачанка" накіроўваецца каля ста лепшых навучэнцаў. Свае прафесійнае майстэрства яны дэманструюць у сферы гандлю і паслуг для шматлікіх наведвальнікаў "Нарачанкі", якія вырашылі правесці свой водпуск у маляўнічых мясцінах Мядзельшчыны. Але прабыванне выхаванцаў ВПВ на Нарачы гэтым не абмяжоўваецца. Умеюць яны тут і актыўна адпачываць. Канцэрты юных талентаў ужо сталі вядомы нават сярод вяскоўцаў Мядзельскага раёна. Акрамя гэтага актыўна ўдзельнічаюць падлеткі і ў шматлікіх экскурсіях па партызанскіх сцяжынках, у разнастайных конкурсах, у цікавых забаўляльных мерапрыемствах. Пачуеш звонкую песню навучэнцаў і на так званым "Песенным полі".

Супрацоўніцтва сталічнай прафтэхустановы з турысцка-экскурсійным комплексам "Нарачанка" мае ўжо трывалыя традыцыі, заснаваныя на высокім даверы паміж партнёрамі. Аўтарытэт вучылішча дазваляе і сёння падтрымліваць цесныя стасункі з асноўнай базай летняга адпачынку і працы яго выхаванцаў. А ён, як вядома, складваецца з высокай культуры і прафесіяналізму калектыву ўстановы.

Вытанчаны густ і эстэтычнасць, акуратнасць і дысцыплінаванасць, працавітасць і адказнасць характэрны для навучэнцаў ВПВ гандлю.

Усе гэтыя якасці прывівае сваім выхаванцам Раіса Кандрацьеўна Баранава. Яе запал, жыццёвая энергія, бязмежная шчодрасць душы жывяць крыніцу выхаваўчай работы прафтэхадукацыі Мінска. Раіса Кандрацьеўна з'яўляецца ініцыятарам шматлікіх пачынанняў, арганізатарам цікавых мерапрыемстваў.

А яе творчая натхнёнасць узрастае ў час летніх канікул. Кожнае лета Раіса Кандрацьеўна разам са сваімі калегамі рыхтуе для выхаванцаў вучылішча цікавую праграму: гэта працоўны семестр, шэфская дапамога, канцэртныя выступленні і, канешне, Нарач. Першы атрад ужо накіраваўся ў яе казачныя ўладанні.

**Ала КЛЮЙКО.**

# Грошы зарабляюць самі

***Арганізацыя летняй працы і адпачынку ў Мінскім ВПВ лёгкай прамысловасці скіравана сёлета на індывідуальнае працаўладкаванне і санаторны адпачынак.***

Як зазначыла намеснік дырэктара па выхаваўчай рабоце Т.М.Луцук, такая форма работы выклікана фінансавымі цяжкасцямі. Адсутнасць грошай не дазваляе арганізаваць летнік працы і адпачынку ў самім вучылішчы. Таму прыходзіцца выкарыстоўваць індывідуальны падыход. Частка падлеткаў будзе задзейнічана на прадпрыемствах абутковай прамысловасці горада. Некаторыя пачалі працаваць у сферы абслугоўвання.

Не засталіся без увагі падлеткі з малазабяспечаных сем'яў, сіроты. Для іх будзе арганізаваны летні адпачынак па індывідуальнай праграме.

Трэба дадаць, што грошы на лета навучэнцы зарабілі сабе яшчэ і ў вучылішчы. Яны прымалі ўдзел у кірмашы тэхнічнай і мастацкай творчасці ў час святкавання Дня рэспублікі. А некаторыя гурткоўцы прадстаўлялі свае вырабы на святочнай выставе ў Дзяржынску.

**Ала КЛЮЙКО.**

Да 105-годдзя Сакольніцкай сярэдняй школы, што ў Крычаўскім раёне, дзіцячы фальклорны калектыў "Купалінка" збірае архіўныя матэрыялы аб школе і сваёй вёсцы, вывучае народныя абрады, запісвае ўспаміны былых вучняў і настаўнікаў.

НА ЗДЫМКУ: дзіцячы калектыў "Купалінка".

**Фота Валерыя БЫСАВА, БЕЛТА.**

# Свайго не цурайся і чужому вучыся

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

*На сёння мы маем выразны сацыяльны партрэт выпускніка ВНУ 2001 года. Гэта чалавек, які добра авалодаў фундаментальнымі ведамі, ясна бачыць сацыяльна-эканамічныя мэты развіцця рэспублікі, мае шырокую навуковую і практычную падрыхтоўку. Гэта таксама ўмелы арганізатар, здольны прымяняць прынцыпы навуковага кіравання сацыяльна-эканамічнымі і тэхналагічнымі працэсамі. Ён умее працаваць з людзьмі, цэніць іх працу, прыслухоўваецца да думкі калег, аб'ектыўна і крытычна ацэньвае вынікі дзеяздольнасці падначаленых. Сучасны спецыяліст – асоба, якая мае высокую культуру, развіты інтэлект, гэта сапраўдны інтэлігент развіццёвага грамадства і дзяржавы. Гэта фундамент будучага нашай радзімы.*

*Важнай рысай сучаснага спецыяліста з вышэйшай адукацыяй з'яўляецца тое, што ён можа самастойна папаўняць атрыманыя ў ВНУ веды і мае ў гэтым пастаянную патрэбу.*

*На сёння дыпломы аб вышэйшай адукацыі атрымалі каля 38000 выпускнікоў 2001 года. З іх 32000 закончылі дзяржаўныя ВНУ. Магістрамі сталі 412 чалавек. Падрыхтоўка спецыялістаў у гэтым навучальным годзе ажыццяўлялася па 233 спецыяльнасцях і 1070 спецыялізацыях.*

*Дзяржава атрымала амаль па ўсіх сферах жыццядзейнасці спецыялістаў. Для сістэмы адукацыі падрыхтавана 13900 чалавек; прамысловасці – больш за 8000 чалавек; сельскай гаспадаркі – 2850 чалавек; аховы здароўя, фізічнага выхавання і спорту 1400 чалавек; транспарту і сувязі – каля 900 чалавек, мастацтва і кінематаграфіі – каля 260 чалавек. Па эканамічных спецыяльнасцях у гэтым годзе атрымалі вышэйшую адукацыю каля 4000 чалавек.*

*Статыстычныя даныя красамоўна сведчаць пра вялікі попыт у грамадзян нашай краіны на вышэйшую адукацыю. Падмацоўвае гэта і статыстыка ўступнай кампаніі гэтага года. Калі у мінулым годзе конкурс у ВНУ рэспублікі дасягнуў рэкорднай лічбы – 2,7, то ў бягучым годзе прагназуецца павелічэнне гэтага паказчыка на адзінку.*

**— Размова ідзе пра стаўку?**

— На ўвазе маецца сярэдняя заработная плата. Нехта з настаўнікаў атрымлівае і значна болей, а хто і менш. Сярэдняя заработная плата прафесарска-выкладчыцкага саставу за май склала 165, 7 тыс. руб.

З 1 ліпеня павышана стаўка першага тарыфнага разраду да 14500 рублёў. Таксама павышана стаўка мінімальнай заработнай платы, што зноў-такі паўплывае на заробак педагагічных і навуковых работнікаў. З 1 лістапада, як вядома, зноў павысіцца стаўка першага тарыфнага разраду. Такім чынам, мы назіраем паступовае і мэтанакіраванае павышэнне заработнай платы ў сістэме адукацыі да стодоларавага рубяжа. А ў сярэднім у настаўнікаў яна складзе і 120, а дзе і 130 долараў у месяц. Падкрэслю зноў, што гаворка ідзе пра сярэднюю заработную плату. Канечне, можна казаць, што гэта не такая і вялікая аплата працы настаўніка, калі паглядзець на цэны. Але навідавоку дынаміка росту заработнай платы пры тым, што ўжо ёсць тэндэнцыя да спынення росту цэн.

**— Вы не жартуеце?**

— Не. Нашы цэны выроўніваюцца з цэнамі сусветнага рынку. Яны іх дагналі па асноўных відах тавараў, у тым ліку і харчовых. Адсюль і такая ўпэўненасць. Улічыце яшчэ той факт, што мы плацім за камунальныя паслугі, грамадскі транспарт і г.д. у дзесяткі разоў менш, чым у іншых краінах. Далейшае павышэнне заработнай платы будзе ісці як прыбытак да павышэння жыццёвага ўзроўню.

**— Вядома, што шмат школ і іншых навучальных устаноў выкарыстоўваюць тое абсталяванне, якое ім дасталася ў спадчыну ад савецкага часу.**

— Канечне, матэрыяльна-тэхнічнае забеспячэнне сістэмы адукацыі – адна з галоўных праблем: гэта датычыць і навучальнага працэсу і комплекснага абнаўлення матэрыяльнай базы ўстаноў.

Аднак на ўсё трэба глядзець з пэўнай адлегласці, дыстанцыі, каб адчуць, што зрухі ёсць. Давайце памятаць, што ў нас на сёння сярод краін СНД, Усходняй Еўропы самая нізкая , напрыклад, плата за ўтрыманне дзяцей у дашкольных дзіцячых установах. Па сутнасці, сёння бацькі плацяць толькі 25% ад выдаткаў на харчаванне. Астатняе бярэ на сябе дзяржава. Гэта датычыць і эксплуатацыі будынкаў, і заработнай платы, і таго ж харчавання. У сувязі з гэтымі выгодамі павялічылася лічба ахопу дзяцей дзіцячымі садкамі. Яна сёння складае звыш за 70%.

На другім Усебеларускім сходзе гаварылася пра вырашэнне праблемы стопрацэнтнай падрыхтоўкі дзяцей шасцігадовага ўзросту да школы. Гэта азначае, што з пяці год дзіця павінна быць ці ў дашкольнай установе, ці з ім павінны працаваць спецыялісты ў галіне педагогікі і псіхалогіі.

Як вядома, дзяржава бярэ на сябе ўтрыманне па харчаванні шырокага кола навучэнцаў, пачынаючы з падрыхтоўчых класаў і заканчваючы прафесійнымі вучылішчамі. Калі гэта падлічыць, то лічба складзе дзесяткі мільёнаў долараў. І гэта не трэба скідваць з вагі ў рэчышчы нашых з вамі разважанняў. Дадайце да гэтага сродкі, якія выдзяляюцца на функцыянаванне пазашкольных устаноў (яны, па сутнасці, застаюцца бясплатнымі). А колькі сродкаў выдзяляе дзяржава на ўтрыманне прафесійна-тэхнічных і сярэдніх спецыяльных, вышэйшых навучальных устаноў. Заўважу, што сёння вышэйшая школа на бюджэтную форму навучання прымае ў свае сцены тую колькасць студэнтаў, якая была ў 90-х гадах мінулага стагоддзя. Гэта красамоўны паказчык, калі ведаць, што адзін студэнт абыходзіцца дзяржаве каля 1000 долараў.

Вырашаючы праблемы павышэння заработнай платы, трэба мець на ўвазе і іншыя выдаткі на сістэму адукацыі. Лічу, што нягледзячы на існуючыя цяжкасці матэрыяльнага забеспячэння сістэмы адукацыі, мы знаходзімся на парозе неабходных для нас зрухаў як у выплаце заработнай платы, так і ў вырашэнні праблем абнаўлення матэрыяльна-тэхнічнай базы сістэмы адукацыі.

**— У нядаўнім мінулым амерыканскі прэзідэнт Біл Клінтан перад адукацыяй паставіў дзве задачы: дамагчыся, каб васьмігадовыя дзеці ўмелі чытаць і каб дванаццацігадовыя амерыканцы умелі выкарыстоўваць Internet. Першая задача для нас вырашальная ў шасцігадовым узросце. А вось другая...**

— Адносна падручнікаў і камп'ютэраў. Да першага верасня неабходныя падручнікі мы выдадзім.

На наступныя два гады прынята так званая праграма "Белнет", якая была распрацавана па рашэнні Прэзідэнта нашай краіны і паводле якой з цягам часу кожная сярэдняя школа будзе мець магчымасць выйсці ў Інтэрнет. Наладжваецца адзіная інфармацыйная прастора з Расіяй. Нашы спажыўцы інфармацыі змогуць праводзіць інфармацыйны абмен не толькі на англійскай, але і на рускай, на беларускай мовах. Развітыя краіны ўжо даўно прыступілі да стварэння адукацыйных інфармацыйных рэсурсаў і камп'ютэрных сетак для абмену імі. Гэта, напрыклад, RUNET у Расіі, UNINET у Нарвегіі, DFN у Германіі, NASK у Польшчы. У нас у гэтым плане існуе шмат праблем, якія больш падрабязна мы закранём у іншых размовах. Скажу толькі адно – сітуацыя з забеспячэннем камп'ютэрамі нас сёння вельмі не задавальняе.



**— Васіль Іванавіч, апошняе дзесяцігоддзе высветліла вызначальныя адукацыйныя праблемы. Хочацца пачуць ад Вас адказ на пытанне: што важнага і значнага было ў ім.**

— Галоўнае ў тым, што ў апошнія гады была створана не лозунгавая, а дзейсная не на словах, а на справе сістэма адукацыі. Яна, канечне, створана не на пустым месцы, а на падмурку савецкай школы, якая была ў свой час адной з найлепшых у свеце. Стварэнне новай школы адбывалася на грунце развіцця ўласнай дзяржаўнасці, з улікам сусветных адукацыйных тэндэнцый. Правільна кажуць у народзе — свайго не цурайся і чужому вучыся.

**— На гэты момант хвалюючым і значным для выпускнікоў сярэдняй школы, іх бацькоў, настаўнікаў з'яўляецца ўступныя экзамены ў вышэйшыя навучальныя ўстановы нашай рэспублікі. Як паказвае дэмаграфічная сітуацыя, на сёння прыпадае пік абітурыентаў. У сувязі з гэтым наколькі важнай з'яўляецца для нашага грамадства вышэйшая адукацыя?**

— У некаторых ствараецца ўражанне, што ў апошнія гады мы мала гаварылі пра развіццё вышэйшай школы. Больш — пра агульнаадукацыйную. Але такое меркаванне падманлівае. Натуральна і заканамерна тое, што нам трэба было спачатку трансфармаваць сярэднюю адукацыю, бо менавіта яна — падмурак вышэйшай школы. У яе маюцца свае асаблівасці, якія абавязкова трэба мець на ўвазе, калі намагаешся ісці наперад.

Па-першае, за апошнія гады (1998 і 1999), прынята ўрадам некалькі дакументаў па развіцці вышэйшай школы. У 2001г. па даручэнні Прэзідэнта нашай краіны была распрацавана праграма развіцця вышэйшай школы ў рэгіёнах.

Гаворачы пра вышэйшую адукацыю на Беларусі і ў свеце, выразна вылучаюцца тры асноўныя моманты. Асэнсаваўшы іх, можна прымаць захады, што трэба рабіць, як і з якой мэтай. Гэта розныя па сваёй вазе, сацыяльнай значнасці пастулаты. Але яны характарызуюць напрамкі, тэндэнцыі і намаганні ў рэчышчы сусветнай і нацыянальнай вышэйшай адукацыі.

Першай вызначальнай рысай вышэйшай адукацыі ў развітых краінах свету стаў яе масавы характар. У 60 годзе ў былой БССР на восем з паловай мільёнаў насельніцтва налічвалася каля шасцідзесяці тысяч студэнтаў. Зараз у нашай рэспубліцы на 10 мільёнаў чалавек іх прыходзіцца каля трохсот тысяч. Толькі ў мінулым годзе было прынята каля 70 тысяч студэнтаў. Калі падлічыць суадносіны паміж прыёмам і выпускам, то можна знайсці такую статыстыку — у мінулым годзе кожны другі выпускнік школы стаў студэнтам. Гэта будзе наглядацца і сёння. Дадайце прыём у сярэднія спецыяльныя ўстановы і прафтэхвучылішчы. Лічбы сведчаць самі за сябе.

Другой асаблівасцю сённяшняй вышэйшай школы стала дыверсіфікацыя вышэйшай адукацыі. Гэта значыць, што з'явіліся розныя шляхі, формы дасягнення вышэйшай адукацыі, а адсюль — розныя тыпы ВНУ з розным тэрмінам навучання. І, акрамя таго, з рознымі магчымасцямі атрымання вышэйшай адукацыі. Выразнай у гэтым плане становіцца сітуацыя ў нас. З аднаго боку, мы перайшлі да універсітэцкага тыпу навучання. Акрамя класічных у нас узніклі профільныя універсітэты, акадэміі. З'явіліся таксама вышэйшыя каледжы, якія спалучаюць у сабе магчымасці атрымання і сярэдняй спецыяльнай адукацыі для тых, хто пажадае працягнуць навучанне, – вышэйшай.

На сёння вышэйшую адукацыю атрымліваюць за 5-6 гадоў, у будучым гэты тэрмін скароціцца да 4 гадоў. Такім чынам, масавая вышэйшая адукацыя будзе у сваёй большасці складацца з чатырохгадовага навучання, але гэта не выключыць і 5–6-гадовыя яе тэрміны. Апошняе датычыцца магістратуры.

Трэцяя характэрная рыса развіцця вышэйшай адукацыі – выкарыстанне інфармацыйных тэхналогій, можна сказаць, уплыў інфармацыйнай рэвалюцыі на арганізацыю навучальнага працэсу. А ўвогуле мы гаворым ужо пра з'яўленне інфармацыйнага грамадства. Гэта датычыць і школы, але ж непасрэднае ўздзеянне такія акалічнасці будуць аказваць у бліжэйшыя 20 год на вышэйшую школу. У вышэйшай школе мы толькі на парозе, па сутнасці, гэтага, так бы мовіць, інфармацыйнага дома. Хаця трэба сказаць, што на сёння мы маем дзесяткі тысяч камп'ютэраў. Але, зразумела, іх недастаткова для паўнакроўнага і дзейснага функцыянавання нашых ВНУ. Вось тры вызначальныя рысы развіцця вышэйшай адукацыі, у рэчышчы якіх і будуць прыкладзены намаганні Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, саміх ВНУ для іх актыўнага вырашэння.

**— Васіль Іванавіч, спыніцеся, калі ласка, больш падрабязна на кожнай з названых акалічнасцей.**

— Пераход да масавай вышэйшай адукацыі – паслядоўны, пераемны працэс у развітых краінах свету. Калі ў сярэдзіне 60-х гадоў яны паставілі задачу пераходу да масавай сярэдняй адукацыі, то зараз натуральнымі выглядаюць намаганні пераходу на атрыманне насельніцтвам масавай вышэйшай адукацыі. Адразу заўважу, што такія крокі нельга расцэньваць як нейкую моду, гэта патрабаванне часу. Магу прывесці паказальны прыклад. Калі зазірнуць у даведнік Міністэрства працы, то прафесія лётчыка на сёння стала рабочай прафесіяй. Аднак, каб мець гэтую кваліфікацыю, трэба атрымаць вышэйшую адукацыю. Возьмем тых жа праграмістаў. Можна сказаць, што на сёння гэта прафесія адносіцца да рабочых, таму што яна масавая і накіравана на вырашэнне канкрэтных вытворчых праблем — чалавек застаецца сам-насам з камп'ютэрам, як раней рабочы са станком. Атрымліваецца даволі цікавае спалучэнне – рабочы інтэлектуальнай працы.

Па-другое, у свеце, у тым ліку і ў нашай краіне, ідзе паступовы пераход ад аўтаматызаванай вытворчасці да камп'ютэрызаванай. Гэты працэс будзе, канечне, патрабаваць і адпаведнай падрыхтоўкі. Вышэйшая адукацыя — не толькі атрыманыя веды, гэта іншы ўзровень мыслення.

Па-трэцяе, у нас мяняецца структура грамадства, структура занятасці насельніцтва. У першыя гады атрымання нашай рэспублікай незалежнасці адчувальным стаў недахоп спецыялістаў гуманітарнага профілю — эканамістаў, юрыстаў і інш. Адсюль — павелічэнне колькасці студэнтаў у гуманітарнай сферы навучання.

**— Вы назвалі прычыны, па якіх назіраецца пераход да масавай вышэйшай адукацыі увогуле і ў нас у краіне. Аднак, у сувязі з гэтым, мабыць, узніклі і праблемы?**

— У першую чаргу, узнікае праблема не толькі ў нас, але і на Захадзе, звязаная з рэзкім павелічэннем колькасці студэнтаў. За апошнія сорак гадоў, як паказвае міжнародная статыстыка, іх павялічылася амаль што ў сем разоў. Трэба сказаць, што абнаўленне матэрыяльна-тэхнічнай базы не можа ісці такімі шпаркімі тэмпамі. Гэта азначае – мы маем на сёння пэўнае пагаршэнне ўмоў для навучання, з аднаго боку, і з другога – павелічэнне колькасці студэнтаў вядзе на гэтым этапе развіцця вышэйшай школы да зніжэння якасці вышэйшай адукацыі. Зараз апошняя праблема выходзіць на пярэдні план. Зразумела, ёсць розныя шляхі яе вырашэння. У тым ліку і стварэнне належнай сістэмы кантролю за навучаннем. Той кантроль, які існуе, малаэфектыўны. Трэба значна яго ўдасканаліць, узмацніць і надаць яму сучасныя рысы. Напрыклад, вучэбны матэрыял курса разбіваецца на некалькі частак, і па кожнай з іх студэнт павінен атрымаць допуск да асноўнага экзамену. Аптымальны варыянт – калі да экзамену студэнта "дапускае" камп'ютэр. Такім чынам, ліквідуецца суб'ектыўны фактар у ацэнцы ведаў студэнта.

Узнікаюць і іншыя праблемы, напрыклад, суадносін паміж платнай і бясплатнай формамі навучання, абавязковага размеркавання. Зусім нядаўна я сустракаўся з прэзідэнтам універсітэтаў у Сарбоне, які падкрэсліў, што ў Францыі ёсць дзве магчымасці атрымання вышэйшай адукацыі: за кошт дзяржавы і за ўласныя грошы. Калі чалавек выбірае першы шлях, то ён абавязаны адпрацаваць пяць гадоў па размеркаванні. І ніхто яго не пытае, хоча ён гэтага ці не. Каго гэта не задавальняе, то ён можа перайсці вучыцца за плату. Мне здаецца, прыйшоў час пра гэта скончыць спрэчкі.

**— Вы закранулі тэму пра тэрміны навучання. Яна таксама звязана з набыццём вышэйшай адукацыі масавага характару?**

— Тэрміны навучання ў ВНУ непасрэдна звязаны з тым, як пабудавана сярэдняя адукацыйная школа. Пераход да 12-гадовай школы прымушае падумаць і пра пераход да чатырохгадовай вышэйшай адукацыі, якая па змесце будзе адпавядаць сённяшняй пяцігадовай і максімальна наблізіцца да прафесійнай школы. З гэтага вынікае і двухступеньчатая вышэйшая адукацыя, якая мае на мэце дыферэнцыраваць студэнцкае навучанне, надаць яму новае напаўненне. Першая ступень у значнай частцы будзе чатырохгадовай, да яе ў масавым парадку мы прыйдзем праз 8-10 гадоў.

**— Прабачце, аднак БДУ ўжо абвясціў аб пераходзе на двухступеньчатую вышэйшую адукацыю.**

— Універсітэт пакуль што толькі эксперыментуе. А вось гадоў праз восем-дзесяць гэта будзе ўжо не эксперымент. Таму што сёння мы маем 11-гадовую школу, а вышэйшая чатырохгадовая школа ў сусветнай адукацыйнай прасторы грунтуецца на 12- ці 13-гадовай агульнаадукацыйнай школе. Вось чаму захады БДУ трэба разглядаць як эксперыментальныя. Першая ступень вышэйшай адукацыі па падрыхтоўцы выпускнікоў ВНУ не павінна быць ніжэйшай за ранейшую.

З пераходам на чатырохгадовае навучанне ў ВНУ не будуць мяняцца і заключныя тэрміны, калі чалавек атрымлівае вышэйшую адукацыю. Напрыклад, я пайшоў у савецкую школу ў сямігадовым узросце, закончыў яе ў 17 гадоў, далей пяць з паловай вучыўся ў Белдзяржуніверсітэце. Такім чынам, вышэйшую адукацыю атрымаў у 22 з паловай гады. З 1998 года нашы дзеці ідуць у школу з шасці гадоў, там вучацца 12 гадоў. Пасля за чатыры гады будуць атрымліваць вышэйшую адукацыю. Вось вам і арыфметыка. Атрымаем ранейшыя 22 гады – як і ў савецкія часы. Але такое лічбавае супадзенне мае прынцыповую розніцу ў змесце і форме падрыхтоўкі маладога спецыяліста. Раней мы гаварылі толькі аб неабходнасці фундаментальнай падрыхтоўкі ў ВНУ. Зараз жа размеркаванне інтэлектуальнай нагрузкі павінна быць іншым. Значная яе доля павінна прыпадаць на школу, якая прызначана адаптаваць старшакласніка да жыцця і ў тым ліку для атрымання вышэйшай адукацыі ў скарочаныя тэрміны.

Нехта, калі будзе патрэба ў больш паглыбленай спецыялізацыі ведаў, зможа вучыцца і пяць гадоў. Пры адпаведным жаданні можна прадоўжыць навучанне і ў магістратуры. Па сутнасці, гэтыя дадатковыя два гады ў магістратуры будуць падрыхтоўкай чалавека да трохгадовай аспірантуры. Практыка сведчыць пра вельмі нізкі працэнт абарон прэтэндэнтаў на вучоную ступень кандыдата навук. Новая мадэль падрыхтоўкі спецыяліста найвышэйшай кваліфікацыі 2 + 3, здаецца, павінна вырашыць і гэтую праблему.

**— Мы гаворым пра характар, тэхналогію і змест масавай вышэйшай адукацыі. Скажыце, якія будуць шляхі яе атрымання.**

— З'явіўся нават спецыяльны тэрмін, я ўжо яго называў, дыверсіфікацыя, які абазначае розныя шляхі атрымання вышэйшай адукацыі. Разгледзім гэта на прыкладзе Германіі. Германская мадэль школы ў свой час была ўзорнай для Еўропы і ў тым ліку для царскай Расіі. У германскіх універсітэтах студэнты вучыліся і вучацца шэсць гадоў. Трэба адзначыць той факт, што па працягласці навучання германская школа вызначаецца сярод іншых. Там спрацоўвае мадэль: 13-гадовая школьная і 6-гадовая універсітэцкая адукацыя. У канцы 60 гадоў узніклі новыя тыпы навучальных устаноў – так званыя Fachhochschule, якія мелі толькі чатырохгадовы тэрмін навучання і былі набліжаны да практычных патрабаванняў вытворчасці. Тры гады займала тэарэтычнае навучанне, а год – практыкі. Практыкі не той, якая была ў савецкія часы: пайдзі ў той цэх, прынясі, так сказаць, нешта ў другі. Яна была арыентавана на будучую спецыяльнасць і, як правіла, яе праходзілі на тых прадпрыемствах, куды і меркавалася накіраваць маладога спецыяліста. Гэтыя ўстановы ўзнікаюць і ў іншых краінах Заходняй Еўропы, пачалі распаўсюджвацца і далей. У Амерыцы таксама меўся падобны вопыт. З'явілася ў свой час рознаўзроўневая сістэма падрыхтоўкі студэнтаў і з рознымі тэрмінамі іх навучання.

У апошнія дзесяць гадоў стала вельмі хутка развівацца дыстанцыйнае навучанне. Яно нам вядома як завочнае, але ж паміж імі ёсць прынцыповая розніца – у выкарыстанні інфармацыйных тэхналогій і даступнасці да тэхнічных сродкаў, у тым ліку і да Інтэрнету. У сувязі з гэтым набывае спецыфіку і адпаведны кантроль ацэнкі ведаў і ўменняў навучэнцаў.

**— Са з'яўленнем устаноў living рознага тыпу, мабыць, цесна звязана і пераўладкаванне некаторых рэгіянальных інстытутаў ва універсітэты?**

— Калі мы пераходзілі на універсітэцкі тып навучання, то добра ўсведамлялі, што адразу з інстытута універсітэт не вырасце. Але калісьці трэба было пачынаць гэтую працу. А патрэба ў класічным універсітэце была і ёсць вельмі вялікая. Дарэчы, іх адукацыйныя тэхналогіі пры гэтым таксама мяняліся, што адказвала і запатрабаванням часу. Напрыклад, калі Мінскі радыётэхнічны інстытут стаў Беларускім дзяржаўным універсітэтам інфарматыкі і радыёэлектронікі, то ён, карыстаючыся англійскай тэрміналогіяй, стаў універсітэтам прыкладных ведаў.

Сёння мы маем чатыры вышэйшыя каледжы, якія спалучаюць у сабе як рысы тэхнікумаў, так і рысы вышэйшых навучальных устаноў. Можна сказаць, што гэта адказ на запыты грамадскіх інтарэсаў і вытворчасці. Такія ўстановы маглі быць сфарміраваны на грунце савецкай сістэмы адукацыі. Нам не трэба было ствараць беларускія Fachhochschule, таму што ў нас былі сярэднія спецыяльныя ўстановы, якіх не было на Захадзе. З тым узроўнем тэарэтычнай падрыхтоўкі, з аднаго боку, і з тымі набытымі навыкамі, якія яны набывалі пасля заканчэння тэхнікума.

Сістэму вышэйшых каледжаў мы будзем і далей развіваць. У нас маецца магчымасць іх ствараць як у рамках ВНУ, так і ў якасці самастойных устаноў. У сувязі з такімі падыходамі ўзнікае праблема спалучэння паміж сярэднімі спецыяльнымі ўстановамі і вышэйшымі, спалучэння адукацыі спецыяльнай і вышэйшай. Яна не ўзнікла на новым месцы, а дасталася нам па спадчыннасці, ад савецкіх часоў, калі ў пачатку 80-х гадоў мінулага стагоддзя ў Савецкім Саюзе канчаткова зразумелі, што сістэмы сярэдняй спецыяльнай і вышэйшай адукацыі не могуць існаваць паасобку.

Вернемся да недалёкага мінулага. У сярэдзіне 80-х XX ст. пачалі ствараць розныя формы навучання. Мы памятаем і інтэграваныя вучэбныя планы, і інтэграваныя формы навучання, і перавод выпускнікоў тэхнікумаў адразу на трэці курс ВНУ і г.д. Як бачым, практыка, жыццё самі падказвалі выйсце з канкрэтных сітуацый. Эксперыментаванне павінна скончыцца і жыццёвыя патрэбы змогуць набыць рэальнае аблічча, сістэмнае рашэнне, над чым зараз мы і працуем.

Сярэднюю спецыяльную адукацыю ў наш час ужо разглядаюць як прыступку да вышэйшай. Гэтым словам трэба надаць канкрэтнае выражэнне, што вымагае ад нас розных падыходаў, мер, рашэнняў. Паступова і мэтанакіравана мы да гэтага набліжаемся.

**— Спыніцеся, калі ласка, на трэцяй праблеме.**

— Адносна інфармацыйных тэхналогій можна сказаць наступнае. Па сутнасці, гаворка павінна ісці пра інтэрактыўнае навучанне ці, так бы мовіць, саманавучанне. Калі я працую з камп'ютэрам, то ён можа мяне "павесці" за сабой — у залежнасці ад майго ўзроўню падрыхтоўкі ён ставіць усё новыя і новыя задачы. Атрымаўшы ад выкладчыка неабходныя веды, я магу іх развіць і ўдасканальваць самастойна. На пэўнай ступені зноў сустракаюся з выкладчыкам. І так паўтараецца колькі разоў — сістэмна, паслядоўна і пераемна. Студэнт павінен сам вучыцца, а не чакаць, каб яго вучылі. Вось пытанне, на якое мы ў бліжэйшым павінны даць адказ. Інтэрактыўнае навучанне набывае новае гучанне, становіцца важным і значным для нашай сістэмы вышэйшай адукацыі. Пра гэта гаворыць з'яўленне персанальных камп'ютэраў, якіх яшчэ 10 год назад амаль не было ў нашых навучальных установах, і мала хто ўяўляў пра актыўнае выкарыстанне іх у навучанні і працы. Адбылася своеасаблівая рэвалюцыя ў сродках навучння. І таму нельга сядзець склаўшы рукі і чакаць, хто за нас зробіць нашу справу. Трэба актыўна дзейнічаць і інтэнсіўна ўкараняць у практыку навучання новыя тэхналогіі. Заўважу, што гэту патрэбу мы выразна адчуваем і прымаем захады для вырашэння пастаўленых часам задач.

Гутарку вёў
**В.ІЎЧАНКАЎ.**

Уладзімір НОВІК

# Ліра пад капытом Пегаса

### Купляйце кнігі

*Мірна спіць мая бібліятэка.*

**Мікола АРОЧКА.**

То не праўда. Гэта дзеля слова
Краснага, для рыфмы я пішу.
Уявілі б вы сабе размовы
Фаліянтаў у начной цішы.

Дон Кіхот з-пад выкладкі
шыкоўнай
Выйшаў. Рыцар — ўвесь
суцэльны гнеў:
— Цесна, душна ў шафе
нам пакоўнай,
Кнігі — вязні! Шкаф —
не лепш, чым хлеў.

Швейк, нашто дасціпны
і рахманы,
Кажа: — У дзяншчыкі б
гаспадара!
Для ўкрасы у яго раманы
Прыгавор вось
дзеда Шчукара:

— Цаліну на ім бы
заскародзіць,
Ну а калі справа пойдзе туга,
То яму, напэўна,
не пашкодзіць
Аратая пуга, пуга, пуга.

Хлестакоў гаворыць
свайму брату
Бэндару: — Тут пахне
крыміналам,
Кнігі дастае ўладар па блату,
Раззваніць бы па усіх каналах.

...Болей слухаць гэтага
не ў сіле,
А таму абвестку я даю:
Можа, кнігі у мяне купілі б?
Усе тамы дачыста прадаю.

### Пайшоў я з жонкай у грыбы

*Такі ў жанчын,*
*Відаць,*
*Характар:*
*Грыбы*
*Шукаючы ў бары*
*На ўзлессі,*
*Стануць слухаць трактар,*
*Ягоны рокат*
*З-за гары.*

**Уладзімір ДЗЮБА.**

Пайшоў я ў лес
з сваёй Мальвінай,
Была грыбоў пара якраз.
І кош праўдзівых за гадзіну
Набраў паўнюткі, пад завяз.

Яна ж старую сыраежку
Знайшла за гэты час увесь.
Затое слухае належна,
Як барабаніць дзяцел дзесь.

А падышлі мы да узлесся —
Давай з мяне Мальвіна кпіць:
— Камбайна чую гул.
Алеська
Працуе, у жніво не спіць,

І не ў грыбах, як ты з кабетай,
Шчырue, рупны, ён з зары.
Кідай гулянку, любы, гэту,
З суседа прыклад ты бяры!



У Беларускім тэатры "Лялька" ў Віцебску адбылася прэм'ера спектакля "Кот у ботах". Пастаноўку яго здзейсніў мастацкі кіраўнік тэатра заслужаны дзеяч мастацтва Віктар Клімчук. Дэкарацыі і лялькі створаны мастачкай Ганнай Сідаравай.

НА ЗДЫМКУ: сцэна са спектакля "Кот у ботах".

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА.**

Наша чытальня

# Пекла, чысцілішча і рай Уладзіміра Скарынкіна

*Паэт і перакладчык Уладзімір Скарынкін сапраўды прайшоў усё гэта: пекла, чысцілішча, рай...*



ПЕКЛА (хоць сам ён упарта адмаўляецца ў гэтым прызнавацца, мяркую, усё было не так і цяжка) — пэўна, тады, калі працаваў над перакладам найвялікшага з твораў сусветнай літаратуры — "Боскай камедыі" Дантэ.

Чысцілішча — гэтаксама, відаць, тады ж. Калі дзень пры дні, радок за радком, слова за словам цягам цэлых гадоў выпраўляў, звяраў, карэктаваў, адточваў пераклад шэдэўра геніяльнага італьянца, "ачышчаючыся" тым самым ад грахоў і грашкоў перакладчыцкай творчасці.

Рай — хочацца спадзявацца, перажывае сёння, калі ягоны твор, справядліва адзначаны Дзяржаўнай прэміяй у галіне літаратуры за 2000 год, пераходзіць з рук у рукі (з крамаў знік практычна за лічаныя дні пасля з'яўлення), зачытваецца літаральна да дзірак і... памалу становіцца класікай мастацкага перакладу. І вось апошняя навіна: вывучэнне "Боскай камедыі" ў перакладзе Уладзіміра Скарынкіна ўключана ў школьныя праграмы для беларускамоўных школ і нават рэкамендуецца рускамоўным (!) школам.

Пра ўсё гэта — інтэрв'ю з перакладчыкам.

**— Уладзімір Максімавіч, пачну, бадай, з простага, але ў нашым выпадку непазбежнага пытання: не страшна было брацца за "Боскую камедыю"? Вы былі адразу ўпэўненыя, што вам хопіць душэўных, маральных, інтэлектуальных, урэшце, уласна творчых сіл на пераклад гэтага шэдэўра?**

— "Боскую камедыю" я пачаў перакладаць у канцы студзеня 1993 года, спачатку, як кажуць, "у стол". Толькі праз паўгода, калі пераклаў палову, адкрыўся, выйшаў з падполля. Шмат хто здзівіўся, што я ўзяўся за Дантэ. Той жа Уладзімір Арлоў тады ў мяне спытаў: "А як жа быць з Мінкіным, які таксама перакладае "Боскую камедыю"?" На што я адказаў: "Ну, калі будзе два пераклады, тым лепей для нашай літаратуры. Да таго ж, яшчэ ніхто не ведае, ці законча Мінкін свой пераклад..."

А я ведаў сваю настырнасць, мяне маці навучыла даводзіць кожную справу да канца. Я не авантурыст па прыродзе. Адчуваў, быў проста ўпэўнены, што выкладуся напоўніцу, увесь, да рэшты — толькі каб падараваць нашаму народу гэты шэдэўр, толькі каб паказаць, што і нашая мова, і нашая літаратура нічым не горшыя за ўсе іншыя... Я добра памятаў словы Караткевіча пра тое, што нам неабходна перакласці Дантэ, Гётэ, Байрана, і перш за ўсё гэта трэба зрабіць не з-за пашаны да іх, а для нас жа саміх.

**— У часопісе "Першацвет" Якаў Ясэпкін неяк пісаў, што ідэя перакласці Дантэ нарадзілася яшчэ ў 1976 годзе...**

— Можна сказаць, што так. У той час упершыню ў памяшканні сённяшняга Дома літаратара праходзіў з'езд пісьменнікаў, і вось як цяпер памятаю: мы (паэты сярэдняга, тады яшчэ нават маладога пакалення: Казімір Камейша, Мікола Маляўка і іншыя) акружылі ў фае Язэпа Семяжона, і ён гаварыў пра тое, што перакласці "Боскую камедыю" прапанавалі Сцяпану Гаўрусёву, а той адмовіўся. Якраз тады ў мяне й нарадзілася гэтая ідэя.

**— Значыць, атрымліваецца так: з 1976-га па 1993-ы — ажно 17 гадоў. Доўга ж вы падыходзілі да Дантэ...**

— Неяк у адным інтэрв'ю ў мяне запыталі, ці магу я падзяліць сваё жыццё "да Дантэ" і пасля яго. Не, не магу я так падзяліць. Цяпер бачу, што мяне ўсё жыццё рыхтавала да сустрэчы з Дантэ, і калі я паглыбіўся ў падрадкоўнікі, якія адшукаў у Нацыянальнай бібліятэцы, я зразумеў, што даўно б яго спасціг і прыйшоў бы да яго, калі б лепш быў з ім знаёмы — не па рускім перакладзе М.Лазінскага, дзе нярэдка вельмі цяжка дайсці да сэнсу. Можа быць, і занадта самаўпэўнена, але скажу: сам Дантэ быў бы вельмі задаволены сяброўствам са мною і маімі перакладамі.

**— Але гэта насамрэч мае на ўвазе калі не роднаснасць душаў, то, прынамсі, вельмі шмат кропак судакранання — у вас і ў Дантэ...**

— А яны і ёсць, гэтыя кропкі судакранання. Ён ганімы і я ганімы — давялося ж мне пакінуць у 1987 годзе Саюз пісьменнікаў. У нас аднолькавая жыццёвая філасофія — справядлівасць. У нас аднолькавае стаўленне да кахання: ён адналюб і я адналюб. У нас аднолькавае стаўленне да Бога: у ім жыў Бог і ўва мне Ён жыве. У рэшце рэшт, нават калі гаварыць пра мастацкую манеру, то ў творчасці Дантэ я шмат знаходзіў блізкага: імкненне ад канкрэтнага вобраза да агульнага, разгорнутыя метафары й параўнанні і інш.

**— На ваш прафесійны погляд, наколькі адэкватна дазволіла перадаць архіскладаную сімволіку Дантэ беларуская паэтычная традыцыя, сама беларуская мова?**

— Шчыра кажучы, пры перакладзе мне трошкі не хапала кароткіх прыметнікаў і дзеепрыслоўных зваротаў. Але гэта, як кажуць, справа тэхнікі...

У прынцыпе, мне хапіла ўсяго, што ёсць у нашых слоўніках — я спецыяльна лазіў за кожным словам у тлумачальны слоўнік для таго, каб мяне не папракнулі пасля ў выкарыстанні русізмаў. Іншая справа, што наш "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" мае вельмі невялікі аб'ём, усяго пяць тамоў, у той час калі, напрыклад, літоўскі — каля дваццаці...

Наогул жа пра тое, наколькі адэкватным і мастацкім атрымаўся мой пераклад, мне самому гаварыць няспіпла. Таму працытую, напрыклад, нашага вядомага філосафа Уладзіміра Конана: "Рускі паэт М.Лазінскі — агульнапрызнаны майстар мастацкага перакладу. Аднак жа асабіста мне не ўдалося да канца зразумець "Боскую камедыю" па яго добрым, але халаднаватым, крыху старамодным перакладзе, а можа, мне гэта здалося, бо кожная паэтычная мова мае свае багатыя засекі выяўленчых сродкаў. Яны няспынна папаўняюцца чарговай генерацыяй таленавітых літаратараў. Для мяне цяплейшай і багацейшай застаецца родная мова. Глыбей кладуцца на сэрца яе напеўныя інтанацыі і пластычная жывапіснасць. Яны мне бачыліся і чуліся, калі перачытваў "Боскую камедыю" ў перакладзе Уладзіміра Скарынкіна".

**— Уладзімір Максімавіч, ці здараліся ў самім працэсе перакладу такія моманты, што вы раптам пачыналі адчуваць: усё, ужо больш няма сіл, Дантэ перамог, я здаўся, я бяссільны перад ягоным геніем?.. Натхненне ж, як вядома, рэч вельмі не пастаянная...**

— Акрамя Дантэ, мяне натхняў Бог. Над маім пісьмовым сталом вісіць маленькі абразок Ісуса Хрыста. Я набыў яе ва Успенскім саборы ў Смаленску. Ёсць такое паняцце: намолены абраз... Дык вось у мяне акурат такі: маленькі Ісус са сваёй кнігай зазірае проста ў душу... Кожны раз, калі я сядаў за стол, я пачынаў з малітвы, і калі атрымлівалася так, як хацелася, я заўжды падымаў погляд на майго Ісуса і казаў: "Дзякуй, Бог, што дапамог".

**— А як наконт містыкі? Вы ж прайшлі разам з Дантэ ўсе колы пекла, пабывалі ў раі, чысцілішчы...**

— Містыкі не было. Спаў спакойна. Нават перакладаючы самыя страшныя карціны пекла, калі, напрыклад, чалавек нясе сваю адрэзаную галаву і, быццам ліхтаром, асвятляе ёй сябе дарогу, мне анічога страшнага не снілася. Мне сніліся толькі нейкія ўзвышаныя сны. Я магу расказаць два з іх.

Аднойчы прывялі мяне на высокую гару і хацелі раскрыжаваць. Я ім кажу: "Навошта вам мяне крыжаваць? Вы паглядзіце, якія вострыя скалы, я кінуся, разаб'юся, вам і працы ніякай..." "Ну, — кажуць, — няхай будзе па-твойму". Я кінуўся — і паляцеў як арол...

Другі сон, звязаны чамусьці з Някляевым. Сядзім мы з ім на нейкім застоллі, затым выйшлі на вуліцу, і раптам незразумела адкуль — тры зорныя караблі: зорачкі на бартах, а на сярэднім караблі я выразна бачу фары, якія нейкім флюарэсцэнтным святлом асвятляюць перад намі дарогу. Я гавару Някляеву: "Валодзя, паглядзі, якія прыгожыя зорныя караблі!" А ён не бачыць. І мне гэтак стала шкада Някляева...

**— Тут і прачнуліся?**

— Так! І перакладаў жа тады акурат "пекла"!..

**— А над якою часткай "Камедыі" было складаней за ўсё працаваць?**

— Дарэчы, я "з раю" пачаў перакладаць. Такія ўзвышаныя, светлыя карціны! Напэўна, "рай" мне і даў сілы перакласці і "пекла", і "чысцілішча" — самую складаную, самую па-філасофску напоўненую частку.

Хоць калі ўзяць малюнкі... Паветраныя — мне лёгка даваліся, паколькі я часта сам падымаўся ў паветра на самалётах. Горныя — таксама лёгка, бо неаднойчы сам па гарах хадзіў. А вось пекла — тут ужо чыстае ўяўленне. У пекле, дзякуй Богу, я яшчэ не быў. (*Смяецца.*)

**— Ну, чаму ж не былі? Самі ж толькі што сказалі, як складана было перакладаць дантаўскае "чысцілішча". Вось гэта і было, фігуральна і каламбурна кажучы, вашым творчым "пеклам"... Але калі сур'ёзна, Уладзімір Максімавіч, як у перакладчыка ў вас ёсць нейкія свае — адмысловыя — творчыя прынцыпы, метады, урэшце, патрабаванні да перакладу? Хто наогул у вашым разуменні перакладчык? "Супернік" аўтара арыгінала, незалежны творца або, можа, "недапісьменнік", "недапаэт"?.. Даруйце, але існуе і такое ўяўленне пра статус перакладчыка...**

— На гэтыя сапраўды сур'ёзныя пытанні магу адказаць, бадай што, адно, у чым глыбока перакананы: перакладаць вялікіх павінен толькі паэт (калі гэта тычыцца паэзіі, вядома ж). Інакш гэта будзе сурагат.

Адпаведна і пераклад мусіць быць не проста перакладам, а менавіта незалежным і самакаштоўным творам. Калі мяне вылучалі на Дзяржаўную прэмію, так і напісалі: "твор". Не пераклад, а твор...

Наогул жа, калі гаварыць пра вартасці перакладу як твора, то не буду арыгінальным, нагадаю нямецкую пісьменніцкую прымаўку, якую, дарэчы, напісаў на сваім рукапісным зборнічку аўтаперакладаў "Зеленя" Максім Багдановіч, калі дарыў сваёй стрыечнай сястры Нюце: "Пераклады вершаў як жанчыны. Калі прыгожыя, то няверныя, калі верныя, то непрыгожыя..." Асабіста я стараюся, каб мае пераклады былі і прыгожыя і верныя...

**— На вашую думку, ці можна ўсур'ёз гаварыць пра існаванне школы перакладу ў Беларусі?**

— Ёсць асобныя творцы-перакладчыкі, кожны з іх стварыў сваю школу перакладу: Куляшоў, Гаўрук, Семяжон, Дубоўка; з сучасных — Барадулін, Гілевіч, Сёмуха...

**— Хто з іх вам найбліжэйшы?**

— З папярэднікаў — Гаўрук. Ягоны "Гамлет" не горшы за "Гамлета" Лазінскага. Сучаснікі маюць кожны сваю манеру, і кожны па-свойму вабіць... Апошнім часам асабліва радуюся за Яўгена Міклашэўскага. Цудоўны перакладчык. І чаму б, напрыклад, не выдаць кнігу, дзе пад адной вокладкай былі б два пераклады "Яўгенія Анегіна" — Куляшова і Міклашэўскага?!

**— Апошні, дарэчы, часты аўтар нашай газеты. Але ж вернемся да вас, Уладзімір Максімавіч. Цяпер, калі пераклад "Боскай камедыі" створаны, ці можаце вы сказаць, што Дантэ вас "адпусціў"?**

— Не, ён са мною ўжо на ўсё жыццё — у філасофскім, маральным сэнсах. Нягледзячы нават на тое, што цяпер я захапіўся Байранам, "Дон-Жуан" якога перакладаю.

**— Пасля Дантэ — Байран???**

— Калі я ўвесь яшчэ быў у "Боскай камедыі", я выпадкова даведаўся, што ў Байрана ёсць чатырохпесенная паэма "Прароцтва Дантэ", напісаная ад імя Дантэ і тымі ж тэрцынамі, што і "Камедыя". Натуральна, я не мог прайсці міма гэтага і з радасцю пераклаў. Дарэчы, падрадкоўнік мне зрабіла прафесар лінгвістычнага універсітэта Вольга Апанасаўна Судлянкова.

Мне няцяжка было пераключыцца на Байрана... Я, як і любы з нас, маю хібы. Чыгрынаў называў мяне перасмешнікам. А Байран — гэта ж вялікі перасмешнік. І мне было лёгка разумець і ягоную іронію, і насмешку... "Дон-Жуан" лічыўся самым эратычным раманам на пачатку XIX стагоддзя, але ў параўнанні з цяперашнім эратычным чытвом ён здаецца рамантыкай. Я пераклаў ужо недзе палову "Дон-Жуана", цяпер хацеў бы выдаць гэта асобнай кніжкай — у "Юнацтве". Паглядзець, так бы мовіць, як спадабаецца твор нашым юным чытачам. Дарэчы, там у Байрана ёсць такія словы: "Усё залежыць, чытачы, ад вас, ці буду я працягваць свой расказ".

**— Не сумняваюся, яны папросяць вас, а з вамі і Байрана, працягнуць "ваш" расказ... А напрыканцы, Уладзімір Максімавіч, калі ласка, некалькі слоў да чытачоў нашай газеты.**

— Ведаеце, каб не быць галаслоўным, але зачапіць-такі "настаўніцкія" пытанні, лепей я падару вашым чытачам урывак паэмы Байрана — якраз тыя мясціны, дзе гаворка ідзе пра выхаванне Дон-Жуана... Хто ведае, можа што і пачэрпнуць для сябе з той "методы" цяперашнія нашыя педагогі...(*Смяецца.*)

**— Дзякуй вялікі, Уладзімір Максімавіч, і за гутарку, і за ўрывак з захапляльнага рамана.**

**Мікола ЧЭМЕР.**

Джордж Гордан Байран

## Дон-Жуан

*З песні першай*

Быў Дон Хасэ з Кастыліі,
а жонка —
Дакладней, разумнейшая
з удоў —
Была па радаводзе арагонка.
Яна хацела, каб Жуан гатоў
Быў да вайны і разбіраўся тонка
ў ваенных справах
з маладых гадоў.
Іх родзічы стралялі, фехтавалі,
І крэпасць, і жаночы
кляштар бралі!

Каб сынам быў
здаволены кароль,
Яна яго выхоўвала духоўным
І паслухмяным,
лічачы кантроль
Педагагічным
метадам галоўным.
Ты толькі сыну
паспытаць дазволь
Смак волі за штыкетнікам
ахоўным —
І ён вучыць не будзе
астраномію,
А стане зазіраць у анатомію.

Ён вывучаў больш
нежывыя мовы,
Найбольш абстрактныя
з навук усіх,
Мастацтвы штучныя,
чые асновы
Грунтуюцца не на страсцях
людскіх.
А ўсё, чые два-тры-чатыры
словы.
Прафесарам
прамоўленыя ўслых,
Маглі сказаць фантазіі ягонай,
Скуль род людскі,
было пад забаронай.

Класічны накірунак выхавання
Прынёс шмат клопатаў,
калі дайшоў
Настаўнік вопытны
да выкладання
Прыгод багінь распусных
і багоў.
Са скуры лез ён
дзеля апраўдання
Усіх учынкаў іхніх і грахоў,
Але не змог прадухіліць нападу
На "Энеіду" і на "Іліяду".

Вучыў Жуан іх
па выданнях школьных,
Што цэнзарамі пільнымі былі
Пазбаўлены мясцін сваіх
фрывольных,
Дзе ў тлумачэннях месца адвялі
Для вынятак, разбэсціць
вучняў здольных,
Бо цэнзары, напэўна, не маглі
Сказіць нахабна сціплага паэта
І згладзілі крыху
злачынства гэта.

У шэсць гадоў ён выглядаў
ягняткам,
А ў адзінаццаць —
мілым хлапчуком,
Хоць мог, не задаволены
парадкам
Ці іншым нечым,
грукнуць кулаком,
Ды дзякуючы маці і заняткам,
Нарэшце, стаў спакойным
юнаком,
Хоць болей за вучоных
безвалосых
Засвоіў ісцін малады філосаф.

Так думала Інеса, хоць дачасна
Прадугадаць нялёгка
ход падзей.
Я ж ведаў, як Хасэ
ўлюбляўся страсна,
І ўжо нядрэнна
разумеў людзей —
І мне было, як і цяпер, няясна:
Жуан — святоша
ці пралюбадзей?
Здагадкі публікацыі не варты,
Тым болей — злыя,
з'едлівыя жарты.

І я маўчу, маўчу
належным чынам!
Зазначу толькі,
каб я бацькам стаў
І абзавёўся не дачкой, а сынам,
Яго б ні ў якім разе не аддаў
На выхаванне
праведным жанчынам
(Такім вось, як Інеса), а паслаў
Яго б у школу я абавязкова:
Там вучаць больш грунтоўна
і талкова!

**Пераклад Уладзіміра СКАРЫНКІНА.**

Спорт

# Выйгралі пяць залатых

Багатыя традыцыі ў беларускага батута. Так, на працягу ўжо некалькіх дзесяцігоддзяў беларускія батутысты з'яўляюцца аднымі з мацнейшых у свеце.

Асаблівай пахвалы заслугоўваюць віцябчане. І невыпадкова: аснову зборнай краіны па гэтам відзе спорту складаюць менавіта яны. А рыхтуюцца юныя спартсмены ў дзіцяча-юнацкай школе алімпійскага рэзерву № 2, якую ўзначальвае Г.І.Рамановіч. Пасля прыняцця рашэння аб адкрыцці спартыўнай школы пры гарадскім аддзеле адукацыі калектыў яе пачаў самастойнае творчае жыццё з 1976 года. Важнейшыя пазіцыі, якія заваяваны на чэмпіянатах былога СССР, а таксама свету і Еўропы, школа ўтрымлівае на працягу чвэрці стагоддзя. Паспяхова выступілі яе выхаванцы і на адкрытым Кубку Швецыі па скачках на батуце. Ён праходзіў у горадзе Херльюнга. У ім удзельнічалі больш за 500 спартсменаў з 14 краін, у тым ліку з усіх скандынаўскіх краін, а таксама з Італіі, Іспаніі, Балгарыі, Польшчы, Расіі і, вядома ж, з Беларусі.

Праходзілі спаборніцтвы ў трох узроставых групах: 13-14, 15-16, 17 і больш гадоў (апошняя мела ўмоўную назву "дарослыя"). Практычна ўсе намінацыі былі закрыты нашай краінай.

Спартыўны гонар Беларусі сярод самых малодшых абаранялі віцябчане — кандыдаты ў майстры спорту Алена Тарасевіч і Андрэй Хамутоў (трэнер — Наталля Лебедзева). Марылі пра узнагароды сумесна з Аленай яшчэ 33 спартсменкі. Але медаль вышэйшай пробы заваявала менавіта яна.

Андрэй Хамутаў — равеснік Алены — таксама пераадолеў усе перашкоды, перамогшы дваццаць шэсць батутыстаў, і ўзняўся на вяршыню п'едэстала гонару.

Сярод 15-16-гадовых цудоўна выступілі майстры спорту Таццяна Турацкова і Максім Каласевіч — абое з Віцебска. Сярод семнаццаці суперніц лідзіравала ў гэтай групе Таццяна. Пераможную эстафету ў яе падхапіў Максім, вырваўшы перамогу ў чатырнаццаці супернікаў.

З добрым настроем і залатым медалём паехала дамоў і 17-гадовая гамяльчанка — майстар спорту Кацярына Субачэва — таленавітая выхаванка трэнера Аляксандра Пастэрнака. Яна выйграла ў славацкай батутысткі Катарыны Пракесавай, якая прымала ўдзел у фіналах чэмпіянатаў Еўропы і свету.

Усе спартсмены выканалі камбінацыі з каэфіцыентамі складанасці ад 110 да 133, паклаўшы ў капілку ўласных дасягненняў ад 93,7 да 103,2 бала і заваяваўшы вяршыні п'едэсталаў гонару. Усё гэта дало магчымасць маладым беларускім батутыстам вярнуцца з пяццю залатымі медалямі, (усяго ў спаборніцтвах прынялі ўдзел больш за 500 спартсменаў. Гэтаму садзейнічала тое, што ўсе яны знаходзяцца ў добрай спартыўнай форме, валодаюць належным майстэрствам і, безумоўна, могуць разлічваць на поспех у Даніі, дзе ў жніўні адбудзецца першынство свету па гэтым відзе спорту.

**Пётр ШУБЯНОК.**

Парады бацькам

# Каб лета было бесклапотным

*У гэту прыгожую пару немалая небяспека можа падпільноўваць дзіця, якое адчувае сябе надта самастойным і спрабуе пазбавіцца ад залішняй апекі дарослых. Пра гэта і пойдзе наша размова.*

### Расліна з прыгожаю назваю...

Дзеці гулялі на ўзлеску, выхваляліся адзін перад адным сваімі знаходкамі: адзін хлопчык знайшоў грыб з чорнай шапачкай, другі — чарніцу, а дзяўчынка захаплялася рэдкай кветачкай. Цяжка сказаць, хто першы знайшоў гэты корань і паспытаў яго на смак, але ўсе згадзіліся, што ён вельмі прыемны і пахне печанымі яблыкамі. Дзеці наперабой сталі каштаваць новы ласунак і не заўважылі, як аднаму з іх стала дрэнна. У хуткім часе адчулі недамаганне і іншыя дзеці. Апамяталіся, калі апынуліся далёка ад дома. Спачатку яны не вельмі спалохаліся, відаць, спадзяваліся, што ўсё хутка пройдзе. Калі спахапіліся бацькі, час быў упушчаны. Урачы адразу ўстанавілі дыягназ: цяжкае атручэнне коранем беладонны. Не магу без болю ўспамінаць пакуты дзяцей і адчай бацькоў. Таму і хочацца перасцерагчы вас ад такіх выпадкаў.

Неабходна ведаць, што і на лузе, і ў лесе, і на абочыне дарогі, і ў старых развалінах, і на закінутых пустках сустракаюцца расліны, якія ўяўляюць вялікую небяспеку для дзіцяці. Увагу дзяцей часта прыцягваюць прыгожыя ягады: тая ж беладонна, воўчыя ягады, зярняты дурнап'яну, падобныя на мак. У Беларусі найбольш распаўсюджаны такія атрутныя расліны, як багун балотны, казялец атрутны, паслён чорны, воўчае лыка і іншыя. Памятайце, што з 300 тысяч відаў раслін, якія сустракаюцца на Зямлі, 700 могуць выклікаць цяжкія і нават смяротныя атручэнні. Не пакідайце дзяцей без нагляду, вучыце па кнігах, малюнках, каляровых атласах адрозніваць атрутныя расліны.

### Больш прываблівае яркі мухамор...

Паездкі і паходы па грыбы даўно ўжо лічацца адным з лепшых відаў адпачынку. Але не ўсе, нават дарослыя, ведаюць, што больш як 200 відаў грыбоў — атрутныя. Звычайна ў ежу ўжываюць усяго некалькі дзесяткаў добра вядомых відаў грыбоў. У іх гатунках менш за ўсё разбіраюцца дзеці, чыю ўвагу больш прыцягвае яркі мухамор, чым замаскіраваны сухім лісцем баравік. А ці ведаеце вы, што ўсяго паловы паганкі дастаткова, каб атручэнне было смяротным! Гэта для дарослага чалавека. Што ж гаварыць пра дзяцей... Як старанна трэба сачыць за дзецьмі, калі вы ўзялі іх з сабой у лес! Як уважліва трэба перабіраць прынесеныя дадому грыбы, старанна перапрацоўваць іх перад кансерваваннем! Напомню, што атручэнні грыбамі бываюць вельмі часта, і 14 працэнтаў іх — са смяротным зыходам нават для дарослых. Настолькі атрутныя грыбныя таксін.

Няма сэнсу апісваць усе атручэнні, бо пры кожным назіраецца свая клінічная карціна, свой час праяўлення, ступень паражэння арганізма, што залежыць ад колькасці яду, які пранік, ад стану арганізма, ад узросту. Часцей за ўсё атрутныя рэчывы раслін або грыбоў трапляюць у кішэчнік, затым у кроў і разыходзяцца па органах і тканках. Найбольш характэрнымі сімптомамі з'яўляюцца: недамаганне, млоснасць, ваніты, болі ў жываце, расстройства страўніка. Найбольш небяспечны яд для сардэчна-сасудзістай і дыхальнай сістэм. Нярэдка развіваецца ныркавая недастатковасць. Часта наступаюць сутаргі і паралічы, паколькі атрутныя рэчывы ў большасці сваёй валодаюць нейратаксічным дзеяннем.

### Да прыезду ўрача...

Сучаснай медыцыне вядомы сродкі, якімі можна нейтралізаваць яд. На жаль, не на ўсякі яд ёсць проціяддзе, ды і трывогу часцей б'юць тады, калі атрутныя рэчывы ўжо ўсмакталіся ў кроў, калі паявіліся першыя сімптомы атручэння. На кожны такі выпадак "хуткая дапамога" выязджае ў першую чаргу. І таму як толькі заўважылі першыя прыкметы небяспекі, адразу выклікайце ўрача. Ні ў якім разе не разлічвайце, што ліквідаваць гэту небяспеку ўдасца вам самім. Патраціце толькі час, і ўжо ніхто не дапаможа. А пакуль не прыехаў урач, прамыйце дзіцяці страўнік — дайце яму выпіць каля літра вады, у якой можна развесці чайную лыжку пітной соды альбо крыху марганцоўкі, зрабіўшы слаба-ружовы раствор. Затым націсніце пальцам на корань языка з мэтай выклікаць ваніты. Не забудзьце захаваць у чыстай пасудзіне рвотныя масы да прыходу ўрача. Па іх саставу можна вызначыць яд і хутчэй назначыць адпаведнае лячэнне. Пасля прамывання страўніка дайце выпіць дзіцяці слабіцельнае — касторку або англійскую соль. Пакладзіце яго ў пасцель, напаіце цёплым чаем або кавай.

І хоць дзіцяці становіцца крыху лягчэй, удзел урача неабходны, таму што частка яду можа застацца ў арганізме і зноў пачне дзейнічаць. Не дапускайце недаравальнай лёгкадумнасці і самазаспакоенасці.



### Крыху пра сонечныя промні

Такія карысныя для здароўя, яны становяцца шкоднымі, калі не выконваць правілы карыстання імі.

Нашы дзеці вельмі любяць загараць, яны імкнуцца як мага хутчэй набыць шакаладны колер скуры. Бацькі таксама не супраць пахваліцца сваім "цёмнаскурым" малым. Сапраўды, сонечныя ванны маюць вялікае значэнне ў барацьбе з рознымі захворваннямі; яны папярэджваюць і лечаць рахіт, загартоўваюць арганізм, павышаюць яго супраціўляльнасць. Але скура дзіцяці вельмі адчувальная да сонечных промняў, і таму могуць паявіцца сонечныя апёкі. Прычым адразу навобмацак або з выгляду вызначыць, ці не перагрэлася дзіця, цяжка, таму што сонечныя апёкі праяўляюцца праз некалькі гадзін. Пры апёку першай ступені скура становіцца пачырванелай, ацёчнай, балючай. У гэтых выпадках прыносяць палёгку прымочкі з адэкалонам або гарэлкай. Калі апёкі паявіліся на твары, то прымяняюцца гармanальныя мазі, якія маюць процiацёчнае і абязбольвальнае дзеянне, напрыклад, гідракартызонавыя. Аднак адразу хачу папярэдзіць, што мазі, якія ўтрымліваюць гармоны, трэба прымяняць дзецям вельмі асцярожна і толькі па рэкамендацыі ўрача. Калі на напружанай, моцна пачырванелай скуры паяўляюцца вадыры, напоўненыя вадкасцю, то гэта ўжо апёк другой ступені. Неабходна абавязкова звярнуцца да ўрача, таму што вадыры павінны ўскрывацца ў стэрыльных умовах, а раны пасля гэтай працэдуры трэба адпаведным чынам прадэзінфіцыраваць.

### Калі ўджаліла пчала

У садах, на лугах, на палях, асабліва ў сырых месцах, на дзяцей нападаюць камары. Месцы ўкусаў змазваюць звычайна спіртам або гарэлкай, а ў асобных выпадках (з павышанай рэакцыяй на ўкусы камароў) на абмежаваных участках скуры можна прымяняць мазі, якія ўтрымліваюць гармоны, але таксама пад кантролем урача.

Значна больш непрыемнымі, іншы раз нават пагражальнымі для жыцця дзіцяці, з'яўляюцца ўкусы асы або пчалы. Восы кусаюць звычайна ў садзе, на лузе, дзе яны лётаюць каля кветак. Часта яны нападаюць на дзіця, калі тое трымае ў руках ласункі (садавіну, мёд, сок, кампот). На месцы ўкусу паяўляецца ацёчнасць, смыленне, сверб. Праз некалькі гадзін гэтыя сімптомы знікаюць, Пчолы пры ўкусе пакідаюць джала. Яго трэба асцярожна выдаліць разам з атрутным мяшочкам, падчапіўшы пазногцем. Для аслаблення мясцовай рэакцыі адразу ж пасля ўкусу трэба пакласці да гэтага месца кавалачак цукру, што садзейнічае выцягненню яду з ранкі і перашкаджае развіццю ацёку. Праз некалькі гадзін мясцовыя сімптомы знікаюць. Але пры выражанай адчувальнасці дзіцяці да яду наступае галавакружэнне, непрытомнасць, павышэнне тэмпературы, паяўляецца алергічны сып. Гэтыя праявы часам бываюць настолькі моцнымі, што могуць мець месца трагічныя выпадкі. Так, укусы ў вобласці шыі могуць садзейнічаць пранікненню яду ў глыбей размешчаныя крывяносныя сасуды і атручэнню ядам усяго арганізма. Небяспечнымі для жыцця могуць стаць укусы ў губы і гартань. Ацёчнасць гэтых месцаў пагражае ўдушшам. У такіх выпадках толькі неадкладная шпіталізацыя дзіцяці, дзе яму будуць уведзены ўнутрывенна або ўнутрымышачна медыкаментозныя сродкі, можа выратаваць жыццё.

### І іншыя небяспекі для беспрытульнікаў...

Хоць і значна менш змей стала цяпер у нас, але выпадкі зміяных укусаў дзяцей усё яшчэ сустракаюцца. Неабходна неадкладна выдаліць джала, змазаць месца ўкусу растворам нашатырнага спірту, слабым растворам марганцавакіслага калію. Дапамагаюць халодныя прымочкі 3-працэнтнага раствору соды. Вышэй месца ўкусу адразу ж накладзіце тугую павязку. Калі ацёчнасць нарастае, то вышэй першай трэба накласці другую павязку і неадкладна адвезці дзіця ў бальніцу. Аказваючы першую дапамогу, многія высмоктваюць яд, але калі ў поласці рота таго, хто ратуе, была якая-небудзь ранка, то атручэнне змяіным ядам пагражае і яму.

Дзіця, якое карыстаецца залішняй свабодай у перыяд канікулаў, часта падвяргаецца траўмам, ударам. Пры парэзах на твары, нават невялікіх, лепш звярнуцца да ўрача, таму што траўмы на твары вельмі прыкметныя.

Тое ж датычыцца і парэзаў на кісцях і запясцях, паколькі ёсць небяспека пашкодзіць нервы і сухажыллі. Пры глыбокіх парэзах і колатых ранах, калі ў рану трапляе гразь, прыходзіцца ўводзіць процiслупняковую сываратку. Але гэта залежыць ад таго, ці была прышчэпка ў дзіцяці супраць слупняку. І ў гэтым выпадку рашаючае слова — за ўрачом.

**Тамара КУР'ЯНОВІЧ.**

Галоўны рэдактар Аляксандр Гайдук

ЗАСНАВАЛЬНІК — МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Рэгістрацыйны нумар 197.

НАШ АДРАС:
220034, МІНСК, ВУЛІЦА ЗАХАРАВА, 42.
Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі — 36-91-42; намеснікаў галоўнага рэдактара — 36-40-63; бухгалтэрыі — 36-53-22; рэкламы — 36-40-63; аддзелаў: школ — 36-43-62; праблем выхавання, навукі — 36-43-71, 36-90-63; інфармацыі — 36-41-55; ВНУ і тэхнікумаў — 36-44-25; прафтэхадукацыі, пісьмаў і сацыяльных праблем — 36-44-25; культуры — 36-41-55.



Адказны дзяжурны Святлана БЕНЬ.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку", 220041, Мінск, праспект Ф.Скарыны, 79.
Аб'ём — два друкаваныя аркушы. Спосаб друку — афсетны. Фармат А2. Індэкс 63867.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 Замова №3853
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Падпісана да друку 8.7.2001 г. у 18.10
Наклад 30.000 паасобнікаў.